*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 9 (548) 27 ЛЮТАГА 2002 г.

## *З святам Вясны, беларусачкі!*



*Дарагія жанчынкі, чытачкі "Нашага слова": нашы матулі, бабулі, кабеткі, маладзічкі, дзяўчаты, дзяўчынкі! Таварыства беларускай мовы шчыра віншуе вас з святам Вясны.*

*Спрадвеку маці - жанчыны, гаспадыні лічыліся захавальніцамі сямейных традыцый. Нездарма ж беларусы сваю родную мову называюць матчынай, матулінай. Хай жа гэтая традыцыя ніколі не перапыняецца! Хай жа і надалей нашы матулі, бабулі праз нашы песні, нашы калыханкі перадаюць сваім немаўлятам найвялікшы наш скарб - мову. Мова ж - гэта, як сказаў мудры Францішак Багушэвіч, "адзежа душы чалавека".*

*Здароўя Вам усім, аптымізму, веры, што наша роднае слова выведзе нашу беларускую грамаду да дабрабыту, да маральнага яднання, а гэта значыць і маральнага здароўя. Хай жа і гэтае разуменне будзе кіроўным для тых, хто доўжыць наш род беларускі. Радзіма заўсёды будзе ўдзячная Вам за гэта!*

***Сакратарыят ТБМ.***

## Малдаване бароняць сваю мову



Антырасейскія акцыі працягваюцца ў сталіцы Малдовы ўжо каля двух месяцаў. Больш за 10 тысяч жыхароў Кішынёва выступаюць супраць выкладання расейскае мовы ў школах ды патрабуюць пакінуць у школьнай праграме прадмет "Гісторыя Румыніі".

У савецкія часы былі папулярнымі анекдоты пра тупых, вечна забітых і паўп'яных малдаван. Асабліва папулярнымі былі гэтыя анекдоты ў расейскамоўным Прыднястроўі. Праз 10 гадоў незалежнасці нашчадкі героеў анекдотаў паказалі ўсяму свету, што яны маюць і гонар, і годнасць. Анекдоты пра беларусаў пачалі расказваць значна пазней. Магчыма і нам можна спадзявацца, што праз колькі год і нашая нацыянальная свядомасць дойдзе хаця б да ўзроўню малдаўскай.

## 10 сакавіка Міхасю Ткачову споўнілася б 60



*Міхась Ткачоў*
*1942 - 1992*

### *Памяці Міхася Ткачова*

10 сакавіка а 12 гадзіне ў менскім кінатэатры "Змена" адбудзецца імпрэза "Памяці Міхася Ткачова" з удзелам гісторыкаў, археолагаў і паказам дакументальных стужак "Ахоўваецца дзяржавай", аўтарам сцэнара якога з'яўляецца Міхась Ткачоў, і "Радашковіцкія ростані".

11 сакавіка а 18 гадзіне ў сталічным Доме літаратара (вул. Фрунзе, 5) – урачыстасць, прымеркаваная да 60-годдзя ад дня нараджэння знанага дзеяча гісторыі і культуры Беларусі. У ёй бяруць удзел навукоўцы, якія добра ведалі юбіляра, сябры. Мяркуецца паказ фільма "Ахоўваецца дзяржавай" і выступленне спеўнага гурта "Тутэйшая шляхта".

Рэкамендуем сябрам Тававрыства, у адпаведнасці з рашэннем сакратарыята ад 31 студзеня 2002 года, правесці вечарыны памяці ў Гародні, Віцебску, Магілёве, Мсціславе, Навагрудку, Баранавічах, Жодзіне ды іншых месцах. Дзеля гэтага раім вам скарыстаць артыкул Алега Трусава "Ён мог быць нашым прэзідэнтам" ("Наша свабода" № 15 за 8 лютага) і Алега Карповіча "Аўтограф" ("Свободные новости" № 5).

Паведамляем таксама пра тое, што да юбілею выдатнага сына беларускага народа Таварыства беларускай мовы выпусціла адмысловы кішэнны каляндарык на 2002 год з партрэтам Міхася Ткачова на фоне Навагрудскага замка.

А 2 сакавіка ў памяшканні Лідскага музея ўжо пачалі адзначаць угодкі слаўнага дзеяча нашага адраджэння. На сустрэчу з сябрамі і паплечнікамі М. Ткачова, археолагамі А. Трусавым, М. Чарняўскім, В. Каралём прыйшло каля паўсотні лідзян, аматараў археалогіі, краязнаўства, актывістаў мясцовага руху за нацыянальнае адраджэнне.

*Ірына Ляксеева.*

## Рэспубліканская Рада ТБМ

10 сакавіка 2002 года ў памяшканні менскага кінатэатра "Змена" (вул. Даўгабродская, 4, трамвай № 3, 6, 7, 8) адбудзецца паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны.

**Пачатак працы а 14 гадзіне.**

# Волат беларускага адраджэння

## Да 60-х угодкаў з дня нараджэння Міхася Ткачова

Кожная нацыя дасягае дабрабыту і павагі з боку сваіх блізкіх і далёкіх суседзяў тады, калі вылучае з шэрагаў сваёй палітычнай і інтэлектуальнай эліты яскравага лідэра, які можа аб'яднаць большасць нацыі вакол сябе.



Станіслаў Шушкевіч і Міхась Ткачоў

Адным з такіх людзей у 80-пачатку 90-х гадоў быў Міхась Ткачоў – вядомы беларускі гісторык, археолаг, педагог, энцыклапедыст, публіцыст, грамадскі і палітычны дзеяч.

Міхась Ткачоў нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Мсціславе 10 сакавіка 1942 года ў сям'і настаўнікаў. Яго бацька Аляксандр Рыгоравіч, настаўнік пачатковых класаў, загінуў пад Ленінградам у 1942 годзе, так і не пабачыўшы свайго адзінага сына. Яго маці, таксама настаўніца, гадавала яго разам з другімі дзецьмі з айчымам, былым афіцэрам Савецкай арміі. Пасля службы айчыма ў Германіі сям'я зноў вярнулася ў Мсціслаў, дзе Міхась скончыў школу.

Пасля школы ён паступіў на гістарычны факультэт БДУ, але паколькі не меў двух гадоў працоўнага стажу, мусіў першы курс вучыцца завочна і да вясны 1960 года працаваць у прыгарадным калгасе. Будучы студэнтам, Міхась пазнаёміўся з беларускімі пісьменнікамі, мастакамі і навукоўцамі.

Сярод іх былі вязень сталінскага ГУЛАГу Станіслаў Пятровіч Шушкевіч, і адзін з заснавальнікаў суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца" Язэп Францавіч Сушынскі. Крыху пазней Ткачоў завязаў прыязнае знаёмства са знакамітым беларускім гісторыкам Міколам Улашчыкам, які мусіў жыць і працаваць у Маскве. Кожны раз будучы па справах у гэтым вялікім горадзе Ткачоў заўжды знаходзіў вольную гадзіну, каб забегчы ў госці да спадара Міколы, перадаць яму апошнія беларускія выданні, расказаць пра культурніцкае жыццё на Бацькаўшчыне. Ён паступова ўсвядоміў сябе беларусам, які мае сваю культуру, мову і гісторыю. Міхась зноў, як калісьці ў дзяцінстве, стаў размаўляць па-беларуску, а сваю дыпломную працу прысвяціў гісторыі роднага горада.

У 1964 годзе Ткачоў скончыў універсітэт і быў размеркаваны ў г. Жодзіна Смалявіцкага раёна. Ён выкладаў пяць гадоў гісторыю ў новай школе ў ваколіцах горада, дзе вучыліся вясковыя дзеці з прыгараднага саўгаса "Зарэчны". Потым стаў завучам і яшчэ глыбей уключыўся ў школьнае жыццё. У Жодзіне Ткачоў ажаніўся і жыў разам са сваёй сям'ёй. Па-ранейшаму да ночы малады завуч у школе, але мара пра сапраўдную гісторыю яго не пакідала.

У 1968 г. ён падаў дакументы ў аспірантуру Акадэміі навук у Інстытут гісторыі. Нягледзячы на выдатна здадзеныя экзамены, яго не хацелі прымаць, і толькі дзякуючы дапамозе пісьменніка, акадэміка, сакратара аддзялення грамадскіх навук Пятра Глебкі, Міхася Ткачова залічылі ў дадзеную аспірантуру на спецыяльнасць "археалогія".

Тэма яго дысертацыі "Ваеннае дойлідства Беларусі XIII – XVIII стст." была вельмі цікавай і зусім недаследаванай. Трэба было працаваць у архівах і бібліятэках, а таксама праводзіць раскопкі. І Міхась Ткачоў зрабіў немагчымае. За тры гады аспірантуры ён напісаў дысертацыю, прычым на роднай беларускай мове, і паспяхова абараніў яе ў 1972 годзе.

За гэтыя гады ён абследаваў рэшткі 13 каменных абарончых збудаванняў. Гэта Камянецкая вежа, замкі ў Лідзе, Крэве, Гродна, Міры, Геранёнах, Мядзелі, Лепелі, Ікразні і іншыя абарончыя збудаванні.

Яму было вельмі цяжка, бо ён быў першым. Не была распрацавана беларуская архітэктурна-археалагічная тэрміналогія і таму ў яго першых публікацыях яшчэ ўжываюцца тэрміны "чарапіца" замест "дахоўка", "абліцоўка" замест "аблямоўка" і "фундамент" замест "падмурка". Зусім не існавала беларускай археалогіі XIV – XVIII стст., і ўсе веды па нашай археалогіі свядома абмяжоўваліся пачаткам XIII ст. (т. зв. перыядам Кіеўскай Русі, альбо Старажытнарускай дзяржавы). Таму і мусіў спачатку рэчы, знойдзеныя пры раскопках, малады навуковец датаваць вельмі шырока XIV – XVII стст.

Асабліва Ткачоў зацікавіўся беларускай кафляй. Ён сабраў вялікую колькасць яе замалёвак, цэлых экзэмпляраў і іх фрагментаў. Гэта дазволіла яму разам са сваімі сябрамі і паплечнікамі Уладзімірам Угрыновічам, Валянцінам Собалем і аўтарам гэтага матэрыяла ў 1989 годзе выдаць першы ў гісторыі беларускай археалогіі каляровы альбом з выявамі нашай кафлі і кафляных печаў XIV—XX стст.

У гэтыя часы ён пасябраваў з вядомым беларускім мастаком, цудоўным графікам Яўгенам Кулікам. У сваіх кнігах ён змясціў навуковыя рэканструкцыі ўмацаванняў старажытных Менска і Камянца, замкаў у Лідзе, Крэве, Міры і Навагрудку, зробленыя рукою таленавітага творцы. Найбольш Ткачоў любіў рэканструкцыю Мірскага замка ў XVII ст., дзе велічны замак абнесены земляным валам з бастыёнамі і мураванай уязной брамай. Шмат зрабіў спадар Міхась і для прапаганды мастацкай спадчыны Язэпа Драздовіча, змяшчаючы яго замалёўкі ў сваіх публікацыях з абавязковай дакладнай спасылкай на аўтара.



Рэканструкцыя Лідскага замка паводле Міхася Ткачова і мастака Яўгена Куліка



Яўген Кулік

Пасля абароны дысертацыі Ткачоў працягваў вывучаць беларускія замкі і працаваў у Інстытуце гісторыі ў аддзеле археалогіі. Прычым, па ранейшаму жыў з сям'ёй у Жодзіне і мусіў штодня дабірацца да Мінска электрычкай.

У 1977 годзе выходзіць яго першая кніга "Замкі Беларусі", якая адразу зрабіла Ткачова вядомым даследчыкам. Упершыню кожны вучань і студэнт, пагартаўшы яе і пагледзеўшы унікальныя архіўныя фотаздымкі і малюнкі, адкрыў для сябе новую Беларусь – краіну замкаў, адлегласць між якімі складала не болей за 20 км.

Фундатарам гэтага выдання стала Беларускае дабраахвотнае Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Кніга, што выйшла накладам 10.000 асобнікаў літаральна за некалькі дзён знікла з кніжных паліц кнігарняў і адразу стала рарытэтам. Зараз сябры і вучні Міхася Ткачова рыхтуюць перавыданне гэтай капітальнай працы па абарончай архітэктуры Беларусі.

У 1978 годзе ў Гродне адкрыўся універсітэт, і Міхася Ткачова запрасілі на пасаду дацэнта, а потым і загадчыка кафедры. У Гродне ён паспяхова піша і абараняе (у 1987 г.) доктарскую дысертацыю "Арганізацыя абароны гарадоў Беларусі XIV – XVIII стст."

Дзякуючы гэтай і іншым працам Міхася Ткачова, мы даведаліся пра шматлікіх абаронцаў Бацькаўшчыны ў часы крыжацкай і татарскай навалаў, шматлікіх нападаў на Беларусь царскіх і шведскіх войскаў.

Менавіта Ткачоў расказаў пра славутага гарадзенскага рыцара Давыда Гарадзенскага, стваральніка шматступеневай ракеты Казіміра Семяновіча, гераічную абарону Віцебска, Магілёва, Мсціслава, Слуцка, Дуброўны, Полацка і іншых беларускіх гарадоў у XVII ст. У 1989 годзе ён атрымлівае званне прафесара.

Аднак сувязі яго з моладдзю не перарываюцца. Ён шмат гадоў разам з іншымі беларускімі археолагамі даследуе старажытны Віцебск, прычым у раскопках бяруць удзел сотні віцебскіх вучняў і студэнтаў.



Раскопкі Віцебска з удзелам Міхася Ткачова і Лявона Калядзінскага

12 сакавіка 1986 года ў Гродне ён разам з супрацоўнікамі Інстытута біяхіміі АН БССР і выкладчыкамі літаратуры Гродзенскага ўніверсітэта стварае клуб аматараў гісторыі і культуры Беларусі "Паходня". Пасяджэнні клуба праводзіліся кожны чацвер, на іх збіраліся шмат моладзі і людзей рознага ўзросту і рознай адукацыі, якія цікавіліся беларускай гісторыяй. Паступова ў клубе ствараліся розныя секцыі па інтарэсах: гісторыка-краязнаўчая, мастацтва, літаратуры і мовы і нават дзіцячая, для вучняў старэйшых класаў.

наша слова № 9 (548) 27 ЛЮТАГА 2002 г.






# Волат беларускага адраджэння

## Да 60-х угодкаў з дня нараджэння Міхася Ткачова



Дзяды-1990. Выступ М. Ткачова ў Доме літаратара 28.10.1990 г.

У гэтыя часы пад кіраўніцтвам Міхася Ткачова праводзіліся раскопкі рэштказ сядзібы, дзе нарадзіўся Кастусь Каліноўскі. Даследчыкам вельмі пашанцавала, яны знайшлі асабістую пячатку бацькі знакамітага змагара за незалежнасць Бацькаўшчыны.

Захоплены хваляй чарговага беларускага адраджэння Міхась Ткачоў актыўна ўключаецца ў палітычнае жыццё краіны. У 1988 годзе ён уваходзіць у аргкамітэт па стварэнні БНФ, а потым на I з'ездзе БНФ у Вільні абіраецца намеснікам старшыні гэтага уплывовага палітычнага руху.

У пачатку 1989 года жыхары Гродна вылучаюць Ткачова кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР і ён выходзіць у другі тур выбараў, нягледзячы на шалёнае супрацьўленне мясцовай наменклатуры.

У гэтым жа годзе ён прыязджае ў Мінск, дзе працуе загадчыкам рэдакцыі гісторыі беларускай энцыклапедыі, а з красавіка 1992 года становіцца галоўным рэдактарам гэтага выдавецтва. Менавіта ён стаіць ля вытокаў такіх унікальных выданняў, як шматтомная энцыклапедыя гісторыі Беларусі, энцыклапедычныя даведнікі "Археалогія і нумізматыка Беларусі", "Архітэктура Беларусі", "Беларусь".

У сваёй прадмове да першага тома першай у свеце шматтомнай "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" 28 красавіка 1992 года Міхась Ткачоў пісаў, што гэта "першая ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны энцыклапедыя, у якой яе стваральнікі імкнуцца найбольш поўна, на найноўшых дасягненнях навукі адлюстраваць шматвяковы шлях беларусаў ад сівой даўніны да сучаснасці ў непарыўнай сувязі з гістарычным працэсам на Еўрапейскім кантыненце".

Сам навуковец напісаў у гэтыя выданні сотні артыкулаў па розных аспектах сярэднявечнай беларускай гісторыі, археалогіі і архітэктуры. Міхась Ткачоў плённа працуе і над гісторыяй нацыянальнай сімволікі. Яго артыкул у самай масавай газеце "Советская Белоруссия" "Нацыянальныя сімвалы: Народ і гісторыя", надрукаваны ў кастрычніку 1989 года, прачыталі тысячы грамадзян Беларусі.

Плённа займаецца Міхась Аляксандравіч і адраджэннем беларускай сацыял-дэмакратыі. У 1990 годзе годзе ён узначаліў аргкамітэт па стварэнні палітычнай партыі БСДГ, а ў сакавіку 1991 г. на ўстаноўчым з'ездзе Грамады абіраецца яе кіраўніком. Партыя адразу становіцца ўплывовай палітычнай сілай і стварае сваю фракцыю ў Вярхоўным Савеце Беларусі.

Ткачоў шмат увагі ўдзяляў супрацоўніцтву з прафсаюзамі. Па яго ініцыятыве паміж БСДГ і Федэрацыяй прафсаюзаў было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве, асабліва ў галіне заканадаўчай дзейнасці.

Міхась Ткачоў першым на Беларусі выказаў і паспрабаваў рэалізаваць тое, што было зроблена ў 2001 годзе – стварыць моцную надпартыйную апазіцыю. Ён прапанаваў стварыць аб'яднаны блок усіх дэмакратычных партый пад назвай "Новая Беларусь". Спачатку справы пайшлі добра, але, дзякуючы празмерным амбіцыям асобных партыйных лідэраў, кааліцыя распалася.



Віцебск. 1983 год. Ніжні замак, археалагічныя раскопкі. Злева на права: Міхась Аляксейчык, Міхась Ткачоў, Лявон Калядзінскі. Фота з архіву Л. Калядзінскага.

8 верасня 1992 на Плошчы Незалежнасці разам з афіцэрамі з БЗВ Ткачоў прыняў актыўны ўдзел у сімвалічнай вайсковай прысязе нашай Бацькаўшчыне.

Нягледзячы на невылечную хваробу, празмерную працу на палітычным і навуковым кірунках, Ткачоў не забывае пра працу з моладдзю. У 1990 годзе ён бярэ актыўны аддзел у абмеркаванні праекта "Палажэння аб сярэдняй агульнаадукацыйнай школе БССР", друкуе свае прапановы па стварэнні канцэпцыі нацыянальнай беларускай школы ў "Настаўніцкай газеце", змяшчае ў часопісах "Роднае слова" і "Маладосць" свае мастацка-публіцыстычныя творы, прысвечаныя гістарычным постацям нашай гісторыі Усяславу Чарадзею і Давыду Гарадзенскаму.

Дзякуючы гэтым удалым спробам у гістарычный прозе ў пачатку восені 1992 года секцыя дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі рэкамендавала яго для прыёму ў творчы саюз беларускіх пісьменнікаў.

Менавіта Ткачоў, з дапамогай Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны знайшоў фінансавыя сродкі выдання біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" ў 6-ці тамах.

Адначасова з гэтым ён піша кнігу апавяданняў па гісторыі Беларусі для пятага класа сярэдняй школы. Аднак цяжкая хвароба нырак, напружанае і складанае жыццё падкасілі гэтага волата нашага адраджэння і 31 кастрычніка 1992 года яго не стала.

У гонар яго памяці на радзіме, у г. Мсціславе ўсталявана мемарыяльная дошка на будынку школы, дзе ён вучыўся, і з'явілася вуліца, што носіць імя Міхася Ткачова. Другая мемарыяльная дошка была ўрачыста ўсталявана на фасадзе дома, у Гродне, дзе жыў славуты навуковец.

Пахаваны Міхась Ткачоў на знакамітых Маскоўскіх могілках у Мінску непадалёку ад уваходу. Яго шматлікія сябры на сабраныя народныя грошы паставілі на магіле прыгожы помнік работы вядомага беларускага скульптара Аляксандра Шатэрніка, у цэнтры якога змешчаны барэльеф М. Ткачова на фоне Мірскага замка.

Таму, шаноўны чытач, калі будзеш на гэтых могілках, не забудзь пакласці да помніка сціплы букет з белых і чырвоных кветак – кветак колеру нашага адраджэння другой паловы XX стагоддзя, якому прысвяціў свае нядоўгае жыццё славуты грамадзянін незалежнай Беларусі Міхась Ткачоў.

*Алег Трусаў.*



Помнік Міхасю Ткачову на Маскоўскіх могілках у Менску

Л.У. Калядзінскі

## МІХАСЬ ТКАЧОЎ...

*"Краінай замкаў называлі сучаснікі Беларусь. Створаныя руплівай, мазольнай працай нашага народа, яны адлюстроўваюць яго гістарычнае мінулае, патрыятызм і гераічную барацьбу ў абарону роднай зямлі...". Так пачынаў сваю першую кніжку, выдадзеную роўна 15-ць гадоў таму назад Міхась Ткачоў. Здаецца яшчэ зусім нядаўна гэта было. Як было і тое, што стаялі мы роўна 10 гадоў таму назад раніцай ля маста праз роў, што баранiў Нясвіжскі замак.*

*Быў туман, блакіт верасьнёўскага неба, золата клёнаў. І падавалася, што дзядзька Міхась пратрубіць зараз у рог і вартавыя замка адчыняць перад намі браму. А потым мы прымем удзел у спаборніцтве сярод стралкоў гарнізога. І калі вока вострае, а рука яшчэ моцная, то мо і пашанцуе ўзяць за першае месца мушкет, за другое – шаблю, а за трэцяе – дзіду. І ніхто сабе, а сама княгіня паднясе табе поўны кубак бурштынавага піва, што потым кропелькамі будзе вісець на тваіх вусах, граючы ыпібы здрыжнічкі ўсёй вясёлкаю коллеру. А можа, калі адбудзецца навала, ці то з боку крымчакоў, ці то з боку казакаў, ці то з боку шведаў або маскоўцаў, пусцімся мы разам з усімі на замкавыя муры. І, паколькі няма ў нас сваёй зброі, згодна правілаў таго часу, возьмем у прыпол кашулі пяць камянёў вялічынёў з кулак і станем поруч з абаронцамі замка. Менавіта так маляўніча ўяўляецца жыццё таго часу сярэднявечнага горада або замка, калі чытаеш яго апошнюю кнігу "Людзі і замкі", што выйшла летась.*

*Але каб данесці гэта да чытача, Міхасю Ткачову трэба было абыйсці ў вандроўках усю Беларусь, пакапаць рыдлёўкаю, перагрэсці горы архіўных звестак. А потым, калі на сьвет з'яўляўся стос навуковых аркушаў, надаць усяму гэтаму яшчэ і лірыку беларускай душы, каб дайшло гэта да сэрца кожнага, каму дарага мінулае Бацькаўшчыны.*

*Гэта быў цудоўны чалавек, вялікі вучоны, няўрымслівы палявы дасьледчык, глыбокі знаўца чалавечай душы.*

*Сёлета, 10 сакавіка, яму б споўнілася толькі 60 год...*

# Пакліканыя

*Савік Л.С. Пакліканыя: Літаратура беларускага замежжа (Л. – Мн.: Тэхналогія. 2001. – 479 с., іл. Наклад 1000 паас.)*

У выдавецтве "Тэхналогія" выйшла кніга Лідзіі Савік "Пакліканыя", дзе асэнсоўваюцца мастацкія здабыткі беларускіх пісьменнікаў далёкага замежжа. Акрамя агульнага ўступнага раздзелу, які раскрывае найбольш значныя вяхі развіцця літаратуры беларускай дыяспары, чытач глыбей пазнаёміцца з жыццём і творчасцю паэтаў Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Дудзіцкага, Янкі Золака, Хведара Ільляшэвіча, Міхася Кавыля, Уладзіміра Клішэвіча, Рыгора Крушыны, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва. Да кожнага з гэтых нарысаў дадаецца бібліяграфія, як сведчанне вялікай цікавасці да творчасці пісьменнікаў-эмігрантаў. Аўтару стала магчымым з пачатку 90-х гадоў, калі Беларусь неспадзявана атрымала незалежнасць, пазнаёміцца, перачытаць, даследаваць іх творы, прасякнутыя беларускай нацыянальнай ідэяй, нязгаснай любоўю да пакінутай Бацькаўшчыны, якая часта не па сваёй волі была такой няласкавай да сваіх таленавітых сыноў і дачок.

Працягам тэмы стане даследаванне, прысвечанае пісьменнікам, якія займаліся пераважна прозай, публіцыстыкай, крытыкай, пісалі мемуары, а таксама выступалі ў жанры паэзіі, драматургіі. Антон Адамовіч, Вінцук Адважны, Кастусь Акула, Юрка Віцьбіч, Антось Галіна (Міхась Міцкевіч – родны брат Я. Коласа), Уладзімір Глыбінны, Алесь Змагар, Анатоль Жменя, Аўген Калубовіч, Лявон Крывічанін, Яўхім Кіпель, Ян Пятроўскі, Аляксандра Саковіч, Уладзімір Случанскі, Пётра Сыч, Мікола Цэлеш, Янка Юхнавец, Сяргей Ясень (Янка Запруднік) і многія іншыя творцы, якія заслугоўваюць таго, каб пра іх ведалі не толькі вузкія спецыялісты – літаратуразнаўцы ды гісторыкі, а і ўсе беларусы.

Гэтыя аўтары належаць да старэйшага пакалення беларускіх пісьменнікаў, амаль усе пачыналі друкавацца ў 20-30-я гады на Беларусі і пазней працягвалі традыцыі Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, пісалі толькі на беларускай (хоць валодалі еўрапескімі мовамі), свята трымаючыся запавету Ф. Багушэвіча "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі..." Іх жыццё і творчасць пазначаны трагедыйнымі адзнакамі XX стагоддзя: бязлітаснымі сталінскімі рэпрэсіямі, вайной, стратай радзімы, бальшавіцкім кляймом "здраднікаў, калабарантаў". Але мала хто ведае сапраўдную сутнасць іх творчасці і жыццёвых лёсаў, бо да гэтага часу мы не маем магчымасці вярнуць іх кнігі )якія пісьменнікі найчасцей выдавалі за ўласны кошт) на радзіму, дзе яны знайшлі б свайго зацікаўленага чытача. І толькі дзякуючы высілкам тых, хто змог сам прыехаць пасля паўвекавой адсутнасці на Бацькаўшчыну, а таксама энтузіязму Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНІМ) ў Нью-Ёрку, наша Нацыянальная бібліятэка мае зборы твораў і перыёдыку замежжа. (Дарэчы, у снежні 2001 года споўнілася 50 гадоў з дня заснавання БІНІМу, а кніга "Пакліканыя", якая была напісана больш чым пяць гадоў таму назад, якраз змагла выйсці да гэтага юбілею). Паўстае пытанне – дакуль мы будзем успрымаць усё тое з мастацкай спадчыны замежжа (а ёсць жа, акрамя пісьменнікаў, выдатныя вучоныя, мастакі-жывапісцы, кампазітары, спевакі, артысты, філосафы, гісторыкі) праз ідэалагічную зашоранасць савецкага часу і аджыўшага метаду сацрэалізму? Чаму ў рускай, украінскай, прыбалтыйскіх літаратурах творы пісьменнікаў-эмігрантаў даўно ўведзены ў айчынны літаратурна-гістарычны кантэкст, а мы ўсё нечага ці некага баімся? А нашы ж пісьменнікі, не прыняўшыя таталітарнай сталінскай улады, шмат пацярпеўшыя ад яе, бо, як вядома, было расстраляна, выслана на дзесяцігоддзі ў Гулаг каля пяцісот "нацдэмаў" – творцаў, пісьменнікаў, журналістаў, прафесійных літаратараў толькі за тое, што пісалі па-беларуску, любілі і шанавалі роднае слова. Тыя, што апынуліся на выгнанні – у Амерыцы, Аўстраліі, Англіі, Бельгіі, Германіі, Канадзе, Францыі – неслі свету гэтым словам праўду пра Беларусь, услаўлялі яе народ, мову, гісторыю. І свет прымаў і карыстаўся беларускімі талентамі, ганарыўся, як сваімі, іхнымі дасягненнямі, як быццам яны былі непатрэбнымі роднай краіне. А яны на алтар беларускага слова ўскладалі ахвяры, верылі, што вернуцца хаця б творчасцю на радзіму, бо многія з іх прайшлі ўжо жыццёвыя дарогі, адышлі ў вечнасць, паспеўшы закрыць сваімі вершамі, паэмамі, апавяданнямі, аповесцямі, яркім публіцыстычным словам белыя плямы на літаратурнай карце Беларусі, сказаць пра тое, пра што не мелі магчымасці ў часы сталіншчыны пісаць творцы тут, на Бацькаўшчыне: пра дзяржаўнасць, незалежнасць, слаўную гісторыю Беларусі, яе мову, нацыянальную сімволіку, беларускіх герояў і мучанікаў. І апявалі яны ўсё гэта паэтычнай мовай, пра якую беларуская паэтэса Наталля Арсеннева – расіянка па паходжанні, з роду Лермантавых-Арсенневых – пісала:

***Наша ж мова –***
***Цудоўная, сьпеўная,***
***Ўмее сьпелым калосьсем шумець,***
***Галасіць навальніцай улеўнаю,***
***Вераснёваю медзяй зьвінець.***
***Мова наша –***

***Выкутая з золата –***
***Не йржавее,***
***Блішчыць,***
***Зіхаціць.***
***Гэта мова паэтаў і волатаў,***
***Скарб, які нас трымаў пры жыцьці.***
***Каб ня мова,***
***Даўно б мы растаялі,***
***Расплыліся імглой між чужых,***
***Зьбеглі ў вырай гусінаю стаяю...***
***Але з мовай –***
***І мы будзем жыць...***
*(Жыве Беларусь.)*

Кніга "Пакліканыя" складаецца з уступу, дзевяці раздзелаў, бібліяграфіі, фотаздымкаў, мае 480 старонак. Адрасавана ўсім, хто цікавіцца беларускай літаратурай, гісторыяй, культурай. Аўтар – Савік Лідзія – прафесійны літаратуразнавец, крытык, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі і ТБМ, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. Аўтар кніг "Адчуванне часу", "Пад мірным небам Бацькаўшчыны", "Космас беларуса" ды інш. Займаецца вяртаненем спадчыны рэпрасаваных беларускіх пісьменнікаў і пісьменнікаў-эмігрантаў. Даследуе праблемы сучаснай беларускай літаратуры. Дзеля вывучэння літаратуры беларускага замежжа працавала ў архівах Нью-Ёрка, Скарынінскай бібліятэцы Лондана, беларускім музеі Ляймена (Германія), прыватным архіве Масея Сяднёва ў Глен-Кове (ЗША), архівах КДБ у Менску, які быў адкрыты для даследчыкаў напачатку 90-х гадоў.

Кнігу можна набыць у кнігарнях Менска.

***Наш кар.***

# Пароль неўміручасці

Захавацца як народ беларусы могуць толькі адным чынам. Вельмі дасціпна выказаўся на гэты кошт Пятрусь Макаль: "Пароль неўміручасці – родная мова". І сапраўды, сакрэт неўміручасці ў тым, каб здолець даць праціяг нашай мове ў наступных пакаленнях, не згубіць сувязь паміж беларускамоўнымі бацькамі і іхнімі дзецьмі, аднавіць цікавасць і патрэбу да размоў і зносінаў па-беларуску. Але ж нельга дамагчыся гэтага без адпаведнай працы па захаванню чытання беларускіх кніг. І вось якраз тут узнікае адна сур'ёзная праблема.

Само па сабе чытанне беларускамоўнай літаратуры, нават цікавых па сюжэту і якасных па інфармацыйнай насычанасці кніг, не вырашае галоўнага. Відавочна, што можна прачытаць усю замежную класіку, перакладзеную на беларускую мову, і разам з тым застацца па-за межамі свайго нацыянальнага. Зразумела, добра, калі чытач адчуў цікавасць і карысць ад беларускамоўнага чытання. Не будзем забывацца, што патрыятызм без зацікаўленасці нішто. Але кожная канкрэтная праява патрыятызму мае сваю нацыянальную афарбоўку. І таму асабліва важна, каб у час чытання ўзмацнялася духоўная непарыўнасць беларускай нацыі. Прызначэнне нацыянальнай літаратуры, а не проста беларускамоўнай, у тым, каб узбагачаць і працягваць у пакаленнях традыцыйныя погляды на сусвет, асаблівасці характару і псіхалогіі, асноўныя рысы менталітэту. Гэта ўсё тое, што аб'ядноўвае людзей адной нацыянальнасці ў адзіную супольнасць – у народ. Таму, на маю думку, важным кірункам дзейнасці ТБМ павінна быць прапаганда якасна – лепшых і нацыянальна-сапраўдных набыткаў беларускай літаратуры сярод вучняў і студэнтаў. Толькі тады малады чытач адчуе сябе беларусам, часткай вялікага беларускага народа.

Без сумневу, такім пісьменнікам з'яўляецца Іван Кірэевіч Сяркоў. Цыкл ягоных апавяданняў для дзяцей "Мы з Санькам..." можна папраўдзе лічыць удалым вырашэннем вышэйпамянёных патрабаванняў. Па-першае, ягоныя творы вылучаюцца глыбока рэалістычным зместам. У іх падаецца сапраўднае жыццё тых часоў, або кажучы інакш, адлюстроўваецца праўда жыцця. Уважлівы чытач знойдзе тут шэраг фактаў з няпростай ваеннай і пасляваеннай рэчаіснасці. Вось, да прыкладу, невялічкі характэрны ўрывак (а пісалася ж гэта ў савецкія часы!). *"У калгасе ж грошай не плоцяць, а на ўсё трэба: і на штаны, і на газу, і на соль. Ды і кожная курыца яшчэ абкладзена падаткам. Ёй трэба нанесці яек не толькі на базар, а яшчэ і дзяржаве, інакш прыйдуць з сельсавета і будуць гразіцца на нядоімку яе апісаць, каб забраць самую. Вось, мабыць, бацька і невясёлы ад такога жыцця".*

Таксама істотнай асаблівасцю ўсёй творчасці І.Сяркова з'яўляецца тое, што гэты аўтар па-майстэрску валодае словам, выкарыстоўвае небяспечныя магчымасці беларускай мовы. Таму і Героі ў ягоных аповесцях па сваіх размовах, паводзінах, жыццёвых назіраннях успрымаюцца чытачамі менавіта як характэрныя прадстаўнікі беларускага народа. Іхную нацыянальную выразнасць і адметнасць не зблытаеш з героямі рускіх, украінскіх і тым больш замежных апавяданняў, нават і перакладзеных на беларускую мову. А дасягаецца гэта тым, што пісьменнік не проста пісаў па-беларуску, а з дапамогай мовы апісваў уласцівыя беларусам рысы характару, погляды, звычкі і г.д. Упэўнены, што пісьменнік бачыў сваёй мэтай, каб маладыя чытачы ўсвядомілі сваю прыналежнасць да беларускага народа, а праз мову твораў адчулі сваю беларускасць.

На старонках аповесцяў амаль скрозь сустракаюцца трапныя, удалыя выразы і асобныя словы з невычэрпнай моўнай спадчыны беларусаў. Напрыклад, цяжка не заўважыць і не ўявіць вобразы наступных персанажаў:

**Цётку Марфешку..., каб падняць, дык трэба пад'есці.*

**Маўчу і я, пазіраю, як вол з-пад абуха.*

**А ў яго нос, які Бог семярым нёс, ды аднаму Мамулі ўдзяліў.*

**Мы сядзім за сталом, ядзім... аж насы Гайдука скачуць.*

Увогуле мова герояў І. Сяркова ўспрымаецца натуральна, бо чытачы чуюць не кніжныя дыялогі, а сапраўдныя размовы, гутаркі, разважанні звычайных, невыдуманых людзей. Вось, скажам, некалькі ўрыўкаў:

**Бабка думае, што задачу напісалі ў кніжку людзі, у якіх або не ўсе дома, або з горла прэ.*

**... Генералаў жа, мабыць, нішчымнай бульбай не кормяць, мабыць, ім і сала неўпоед.*

**Нездарма мая бабуля часта гаворыць, што гушча дзяцей з хаты не разганяе.*

Працягваючы тэму, можна працытаваць яшчэ некалькі невялікіх вытрымак:

**Без нас, як без солі.*

**Няма ў людзей розуму, свой не ўставіш.*

**Ды пакуль жаніцца – загаіцца.*

**Добра з хрэнам, добра і так.*

**Вырас пад неба, а дурань як трэба.*

**Пытаюць у хворага здароўя.*

**Што людзям, тое і нам.*

**Я і душой невінаваты.*

Магчыма, нейкі дасведчаны чытач скажа, што ўсё гэта яму ўжо вядома па публікацыях у лінгвістычных даследваннях ды фальклорных зборніках. Але ж кнігі І. Сяркова прызначаны галоўным чынам, для падрастаючых маладых беларусаў. А дзе сучасная моладзь пачуе такія яскравыя словы, як **здагадзька, бясштанка, няўпраўка, завозна, прыймовая камісія, нявукрутка, напагляд...* Толькі дзякуючы творам пісьменніка, гэтыя словы працягваюць сваё жыццё і перайдуць у спадчыну новым карыстальнікам Моўнага багацця нашай Беларусі. Трэба заўвадыць і тое, што сялянскае дзяцінства і юнацтва І. Сяркова далі яму непаўторны досвед ведання беларускай мовы. Ён, як і паэт М. Арочка, мог бы з поўным правам сцвярджаць наступнае: *"Ды вёска мне – не толькі сырадой і сон друмучы на духмяным сене. Яна – калыска мовы, без якой было б нямым маё натхненне".* Дык напоўніцу скарыстаемся скарбамі беларускай мовы, захаваем і перадамо іх нашым дзецям!

Наапошак, шаноўныя чатачы "Нашага слова", прапаную Вам яшчэ некалькі выказванняў з творчсці І. Сяркова:

**Прычапілася да яго, як сляпы да плота.*

**У хаце, як гаворыцца, і Бог адступіўся.*

**Калі ўжо раззлуецца, то дасць дык дасць. Не панясеш.*

**Як бы ні хварэла, абы добра памерла.*

**Гультай за дзела, а мазоль за цела.*

**Ніхто нашага гонару не адкусіў.*

**Спахапіўся ў пусты след*

**Малайца і соплі грэюць, як сказала б мая бабка.*

***Сяржук Аржанцаў.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 4. 03. 2002 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 322.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
**Кошт у розніцу:** 120 руб.